 

# Ніва

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 35 (1227) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 2 ВЕРАСНЯ 1979 г. ЦАНА 1 зл.

ПОШУКІ І ЗДЗЯЙСНЕННІ

## ДВА замілаванні



Гэты дзівосны свет форм і фарбаў захапіў яго вельмі рана, яшчэ ў маленстве. Бывала, зімою на двары лепіць мокры снег і тады іншых дзяцей у яго родных Мядзвежыках нуда заядала. Ён жа толькі і чакаў на такі час: заціхаў на доўгія гадзіны дзе-небудзь у куточку, карпатліва вырэзваў з кавалачка газеты розныя фігуркі коней, прыхіляў іх да мокрых аконных шыбін і аж абміраў ад таго ўяўнага імпэту, з якім яны імчаліся па бязмежнай снежнай пустэчы. Клікалі за сабою ў нязведаную далеч яго, **Леаніда Вішанку** — вясковага хлапчука. Але ў пачатковай школе ў Мілейчыцах да мары ствараць вобразы далучылася яшчэ адна — улюбёнасць да працы настаўніка. Доўгі час ён перажываў унутраны разлад: не ведаў у якім кірунку падацца. І ўрэшце знайшоў просты выхад — рашыў прысвяціць сябе педагогіцы і мастацтву адначасова.

— У Педагагічным ліцэі ў Беластоку я надта многа пачарпнуў на ўроках малюнку, што вёў з намі Э. Пташынскі, — успамінае Л. Вішанка. — Ад яго я навучыўся асновам працы па акварэлі. Ён таксама заахвоціў мяне працаваць над сабою. Пачаў я даволі сістэматычна займацца ў мастацкім гуртку, што працаваў пры астычным ліцэі ў Беластоку. Там вялі заняткі самыя відныя ў той час беластоцкія мастакі, між іншым А. Вэльс, Т. Болаз і іншыя. То была для мяне праўдзівая духовая раскоша...

У 1951 г. ён, дваццацігадовы юнак, закончыў ліцэй і пайшоў настаўнічаць. Але неўзабаве яго прызвалі на вайсковую службу. Трапіў ён у вайсковую часць у Варшаву і там атрымаў дазвол наведваць мастацкі гурток для вайсковых, дзе выкладалі прафесары-мастакі з Варшаўскай мастацкай акадэміі. Так настойлівае імкненне было падмацавана шчаслівым збегам акалічнасцей.

Пасля вайсковай службы Л. Вішанка на стала пасяляецца ў Сямяцічах і поўнасцю аддаецца настаўнічанню і мастацтву. Адразу вакол яго круціцца грамадка такіх жа запаленых аматараў мастацтва. Завязваецца мастацкі гурток, у якім ён вядзе рэгулярныя заняткі, ходзіць малюваць з натуры, афармляе школьныя і гарадскія ўрачыстасці, арганізуе конкурсы, наладжвае дзесяткі выставак вучнёўскіх прац і сваіх уласных у школе, доме культуры, мясцовым музеі. І ўсё гэта робіць з ахвярнасцю, шчырасцю і добразычлівасцю, якая выклікае глыбокую пашану да яго асобы і сярод моладзі і сярод дарослых. Аднойчы ў сямяціцкім агульнаадукацыйным ліцэі была праведзена сярод вучняў анкета, каго яны ўважаюць за самага лепшага настаўніка. Першае месца заняў Леанід Вішанка.

І пры ўсёй безлічы службовых і сямейных абавязкаў ён знаходзіць сілу, каб закончыць у Вышэйшай педагагічнай школе ў Кракаве рускую філалогію, напісаць і абараніць магістэрскую працу „Тэма мастацтва і вобразы мастакоў у творы Ільі Эрэнбурга „Людзі, гады, жыццё“. Так, гэта яго ўласны свет, і праца не выпадкова атрымала самую высокую ацэнку, доўгі час хадзіла па руках кракаўскіх русістаў і мастацтвазнаўцаў як займальны раман. Замілаваннем да русістыкі, да Савецкага Саюза, ён захапіў не толькі кракаўскіх вучоных. На працягу звыш 25 год навучання рускай мове ў Сямяцічах ён падрыхтаваў больш сотні замілаваных русістаў. Гэта ж яго вучаніцай была **Ала Несцярук** — лаўрэат Міжнароднай алімпіяды па рускай мове ў Маскве ў 1977 годзе. А ў бягучым годзе на русістыку паступіла зноў некалькі яго абсальвентаў.

— Надта ж цяжка было ездзіць на заняткі, бо дзе Сямяцічы, а дзе той Кракаў, — кажа ён. — Але ездзячы дзесяткі разоў амаль праз усю Польшчу, я ніколі не праміну таго, каб наведаць мастацкія выстаўкі, што дэманстраваліся ў той час у Варшаве, Лодзі, Кракаве, Беластоку, перакапаць кнігарні і дабыць там многа розных выданняў па мастацтву, вылучыць хвіліну і на замалёўкі з натуры.

Ледзь змяшчае пукатая папка дыпломы, пасведчанні аб прызнаных яму ўзна-

(Працяг на стар. 4)

**Я**шчэ ў мінулым годзе, як вуліца Аградовая бяжыць праз Бельск, ад пачатку да канца, быў салідны ўбіты брук. І прыйшлі восенню людзі ў аранжавага колеру накідках і давай зрываць каменне. Вуліцу, значыць, ладзяць.

— Асфальт напэўна паложаць, каналізацыю зробяць — падумалі жыхары. Пачалі чакаць. Знікала каменне. Потым капалі чорную зямлю і вывозілі. Ямішчы пакапалі. Надышла зіма і спыніла працу. А зіма была снежная, марозная. Мароз скаваў лужыны, што ў раскопах парабіліся, мяцеліца зараўняла і зноў было, як глянуць вокам, роўна ды гладка. Але вось настала вясна. Паплылі снягі, здаўся лёд і раскапаную частку Аградовай вадою заліло — ні праехаць, ні прайсці, быццам бы не вуліца тут была, а рэчка з берагоў выступіла. Толькі тут, то там нагорнутыя ад раскопаў купіны размоклай зямлі ўздоўж пад платамі віднеюцца. Як ступіш, так і палезла нага, пакуль на цвёрдым абапрэцца. Ішла вясна, пачало да лета набліжацца, а вуліца ляжала раскопанай. Прыехалі раз ці два, ўзялі, дзе сухшае, па прычэпе зямлі і ніхто больш не паяўляўся. А тут ужо і рабочы час. Некаторыя з жыхароў з гэтай вуліцы і гаспадаркі свае маюць. Абрабляць трэба, але вазьмі выедзь з

## ДОБРАЕ САПСАВАЛІ, А ЛЕПШАГА НЕ ЗРАБІЛІ

панадворка, ні ў адзін бок, ні ў другі. Вазы ломяцца. Давай пісаць, прасіць, каб хаця засыпалі. Дык, праўда, прывезлі некалькі выўротак ды высыпалі на купы. Аднаму нават брамку засыпалі. Раптам людзі павесялелі. Паявіліся рабочыя. Прачнуліся і ў адну са жнівеньскіх раніц убачылі машыны, і працаўнікоў. Але радасць была нядоўгая — адзін дзень ад пяці гадзін да дзевяці, другі — ад пяці да васьмі. На трэці прыехаў нейкі, відаць, кіраўнік і машыны зніклі. Зніклі і рабочыя. У жыхароў памалу пачала нарастаць злосць. Хопіць, каб паявіўся нехта незнаёмы, ды зараз адзін за другім выходзяць на вуліцу і толькі мовы, што пра дарогу. Хто лагодна, хто, каму горш дапякло, з накіпеўшай злосцю.

— Так, тут быў добры брук, але магчыма камунальная гаспадарка патрабавала на нешта іншае, — гаворыць нейкая жанчына. — Павывозілі.

— Вы там майго ўнука напалохайце, уцякае, не слухаецца, а там такія ямы, упадзе ды яшчэ руку скруне, — выявіць сваё хваляванне другая.

— Пане, я тут для „Вітаміны“ скрынкі раблю. Сезон, скрынак трэба, а як іх з панадворка забраць? Амаль на Відаўскую выносіць трэба, — жаліцца В. Врублеўскі.

— То ў мяне о, жніво, звезці трэба, пагоды цяпер крыху, і няма як вые-

(Працяг на стар. 5)

ВЕРАСЕНЬ, 1939

## А крыві салдат не шкадаваў

Хопіць паглядзець на даваенную карту Польшчы і гітлераўскага рэйха, каб зразумець, што самая кароткая дарога ў сталіцу нашай краіны для нямецкіх полчышчаў — з Усходняй Прусіі.

Тут баранілася самастойная



*Помнік абаронцам Беластока, які знаходзіцца на ўскраіне горада. Фота В. Рудчыка.*

групіроўка Польскага Войска пад клічкай **„Нараў“**, у састаў якой уваходзілі дзве дывізіі пяхоты і дзве брыгады кавалерыі, у тым ліку Падляшская брыгада кавалерыі з Беластока, якая ў першых днях вайны правяла смелы рэйд па прыгранічных раёнах Усходняй Прусіі і была адзінай польскай ваеннай часцю, якая ў 1939 годзе перасякла дзяржаўную мяжу і нанесла балючы ўдар ворагу на яго тэрыторыі.

Сілы аднак былі няроўныя. Акружаная з трох бакоў Польшча магла супрацьпаставіць гітлераўскай Германіі паўмільёна менш салдат, а на адзін польскі танк прыпадала звыш 8 нямецкіх танкаў. У ваеннай авіяцыі прапорцыі на карысць немцаў 1:15.

Адным са звенняў абароны краіны ў раёне дзейнасці групіроўкі „Нараў“ была сістэма жалезабетонных бункераў над Нарвай і Бебжай, асабліва ў раёне пасёлка Візна, дзе рака цячэ шырокай і балоцістай далінай. Да абароны рыхтаваліся таксама пад Навагрудам, ля Ломжы, між Аўгустовам і Асоўцам, дзе знаходзіліся яшчэ царскія крэпасці.

(Працяг на стар. 4)

 




*Фота: Святаслаў Крыцкі.*

## „Зроблена ў Польшчы"

Пад такім дэвізам адбылася ў другой палавіне ліпеня ў Мінску вялікая польская прамысловая выстаўка. Была яна не толькі нагляднай дэманстрацыяй эканамічна-тэхнічнага прагрэсу ПНР з нагоды яе 35-годдзя, але і канкрэтнай гандлёвай прапановай польскай прамысловасці, якая адрасавалася перш за ўсё народнай гаспадарцы Беларускай ССР.

Варта падкрэсліць, што ва ўмовах няспыннага эканамічнага прагрэсу, хутка узрастае значэнне Беларусі ў агульнасаюзным тавараабмене з заграніцай. Сёння займае яна трэцяе месца ў замежным гандлі СССР (пасля Расіі і Украіны). Вырабы беларускай прамысловасці і сельскай гаспадаркі экспартуюцца ў звыш 100 краін свету, сярод якіх найбольшым гандлёвым партнёрам з'яўляецца Польшча. Як паказваюць апошнія даныя, у мінулым годзе звыш 25% вартасці экспарту БССР кіравалася ў Польшчу, што значна перавышае ўдзел ПНР у экспарце ўсяго СССР (10%).

Беларусь пастаўляе ў Польшчу шырокі асартымент прамысловых вырабаў, між інш., калійныя ўгнаенні (каля 2 млн. тон у год), электраэнергію, нафтахімічныя вырабы, станкі, будаўнічыя матэрыялы, грузавікі, вялікія колькасці халадзільнікаў „Мінск" і гадзіннікаў „Луч". Адначасова з Польшчы ў БССР пастаўляюцца значныя колькасці прамысловага абсталявання (у тым ліку камплетныя заводы для хімічнай, цукровай і дрэваапрацоўчай прамысловасці), каменны вугаль, шмат сельскагаспадарчых і будаўнічых машын, электратэхнічная і электронная апаратура, вырабы шырокага ўжытку і іншыя.

Ва ўмовах узрастаючага эканамічнага патэнцыялу ПНР і БССР, вывучэнне ўзаемных патрэб і магчымасцей з'яўляецца істотным фактарам далейшага развіцця супрацоўніцтва. Для гэтага добрую нагоду прадстаўляла выстаўка „Зроблена ў Польшчы" у рамках якой 36 польскіх знешнегандлёвых прадпрыемстваў паказвала ўсё тое, што магло зацікавіць беларускую прамысловасць. Цяжка пералічыць тыя тысячы экспанатаў, для якіх размяшчэння спатрэбілася аж 14 тысяч квадратных метраў плошчы ў мінскім палацы тэнісных кортаў і на суседніх пляцоўках непадалёк Паркавай магістралі. Тут звыш 250 тысяч мінчан і гасцей беларускай сталіцы на працягу двух тыдняў пазнаёмілася з польскімі будаўнічымі машынамі, сельскагаспадарчай тэхнікай, станкамі і аўтамабілямі, электронікай, хіміяй, вырабамі лёгкай прамысловасці і іншымі.

Арганізатары выстаўкі не забылі і пра культуру. Польскае музыкальнае выдавецтва прадставіла тут значную калекцыю грампласцінак і нотаў, а Ars Polona — абшырную экспазіцыю тэхнічнай, мастацкай і дзіцячай літаратуры, сярод якой увагу наведвальнікаў прыцягвала паліца з выдадзенымі ў Польшчы перакладамі беларускай літаратуры. Прыемна заўважыць, што ў яе склад увайшлі таксама М. Федароўскага „Diabelskie skrzypce" у перакладзе А. Баршчэўскага і томік мініяцюр С. Яновіча „Zapomnieliska".

Акрамя паказу экспанатаў у рамках выстаўкі адбылося некалькі важных мерапрыемстваў, звязаных тэматычна з яе праграмай. Сярод іх асаблівай увагі заслугоўваюць два дзесяткі сімпозіумаў, у час якіх польскія спецыялісты абмяркоўвалі са сваімі беларускімі калегамі разнастайныя навукова-тэхнічныя пытанні. Такія кантакты спецыялістаў часта з'яўляюцца зыходным пунктам не толькі для гандлёвых пагадненняў, але таксама для развіцця кааперацыйных сувязей паміж заводамі або прамысловымі аб'яднаннямі. Іншым цікавым мерапрыемствам быў конкурс, які праводзіла газета „Советская Белоруссия" на тэму: „Што ведаеш аб Польшчы?". У ім удзельнічала звыш 1000 чытачоў. Урэшце нельга не ўпамянуць дзесяткаў кантрактаў, якія польскія знешнегандлёвыя фірмы падпісалі з сваімі савецкімі партнёрамі.

Выстаўку „Зроблена ў Польшчы" наведалі кіраўнікі вярхоўных партыйных і дзяржаўных органаў БССР. Частымі яе гасцьмі былі кіраўнікі гаспадарчых ведамстваў рэспублікі, заводаў і навукова-даследчых інстытутаў. **(тур)**

## КАЛЯНДАР

**170 гадоў назад**

4.9.1809 нар. Ю. Славацкі, польскі паэт. Выдатны прадстаўнік рэвалюцыйнага рамантызму.

**60 гадоў назад**

5.9.1919 загінуў у баі з белагвардзейцамі легендарны герой грамадзянскай вайны Васіль Чапаеў.

7.9.1919 нар. А. Асіпенка, беларускі пісьменнік.

**35 гадоў назад**

6.9.1944 ПКВН абнародаваў дэкрэт аб зямельнай рэформе. Зямлю атрымала звыш мільёна сялянскіх сем'яў.

**20 гадоў назад**

3.9.1959 у Варшаве адбыўся I з'езд Саюза сельскагаспадарчых гурткоў.

* * * * * * * * * * *

*4.9.1909 пецярбургская „Ніва" пісала: У цяперашні час і Турцыя і Персія перажываюць другую канстытуцыю, Турцыя — праз трыццаць год, а Персія — праз 2 гады пасля першай. Пры выглядзе разбуранага і адбудаванага меджыліса ў Тэгеране, пры выглядзе распушчанага султанам і звергшага султана парламента ў Канстантынопалі, міжвольна пачынаеш думаць аб бясплоднасці супраціўлення таму, што прадыктавана ўладальным голасам жыцця, што прадпісана натуральным ходам развіцця нацый, мімаволі пачынаеш разумець, што законы сацыяльнага развіцця магутныя і бяспечныя.*

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"**

**Страляць ва ўсё жывое ● Лявонава доля ● Беларускія дзеці ● Літаратурны палетак ● У нашых самадзейнікаў ● Таямнічыя з'явы ● П. Байко палемізуе з дзедам Кастусём ● Весткі з Чаромхі, Валілаў, Заблудава, Гайнаўкі, Міхалова, Гарадка, Пасынак, Орлі, Бельска, Кузавы, Тапаркоў, Шудзялава, Завыкаў, Сакоў, Масева ● Песня „Всё могут короли"**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 2 IX** — 8.55 Program dnia. 9.00 Teleranek a w nim m.in. „Detektywi na wakacjach". 10.20 Antena. 10.45 Chudy i inni — film obycz. pol. 12.15 Dziennik. 12.30 Rolnicze rozmowy. 13.00 Na bezdrożach Amazonii. 13.20 Piękne głosy — L. A. Mróz. 14.15 Z kamerą wśród zwierząt. 14.40 Los. Dużego Lot. 14.55 Sport. 17.40 Widowisko muzyczno-balet. 18.50 Wyst. ambasadora Wietnamu. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.15 Jan Krzysztof — odc. 9 (ostatni). 21.20 Sport. 21.50 Przeboje mistrzów.

**Poniedziałek 3 IX** — 15.25 Program dnia. 15.30 NURT — Naucz. pocz. kl. III. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Zwierzyniec. 16.55 10 minut — teleturniej. 17.05 Dzień dobry w kręgu rodziny. 17.45 Struktura kryształu — pol. film fab. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr Tel. Jerzy Korczak — Armia Poznań. 22.15 Dziennik. 22.30 Raport w sprawie dzieci niczyich.

**Wtorek 4 IX** — 15.25 Program dnia. 15.30 Klub Seniora. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Studio Młodych. 17.00 Interstudio. 17.25 Sonda. 17.50 Dzień dobry w kręgu rodziny. 18.20 Między nami jaskiniowcami. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Kaskader — radz. film fab. 21.50 Świadkowie. 22.10 Dziennik. 22.25 Camerata.

**Środa 5 IX** — 15.25 Program dnia. 15.30 NURT — Mat. kl. V. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Dla dzieci: Kwiatek siedmiopłatek — radz. film fab. 16.55 Los. Małego Lot. 17.05 Dom i my. 17.20 Dryfujący świat — ang. film przyr. 17.45 Dzień dobry w kręgu rodziny. 18.10 Sport. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Filmoteka Arcydzieł. Wniebowstąpienie — radz. film fab. 22.05 Dziennik. 22.20 Jak?

**Czwartek 6 IX** — 15.25 Program dnia. 15.30 Decyzje piętnastolatków. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Czwartek TDC oraz „Toomai, druh słoni" — tel. film ang. 17.30 Skarbiec. 17.55 Dzień dobry w kręgu rodziny. 18.25 Poligon. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 20.15 Pętla na szyi — odt. pt. „Proces" — tel. film franc. 21.15 Pegaz. 22.00 Szuflada. 22.20 Dziennik. 22.35 Potyczki ze sportem.

**Piątek 7 IX** — 15.25 Program dnia. 15.30 NURT Ped. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Kino Tel. Najmłodszych „Kiwaczek" — film radz. 16.50 Magazyn motor. 17.15 Nie strasz Romeo, czyli spotkania z gitarą — odpowiedzi na listy. 17.35 Dzień dobry w kręgu rodziny. 18.00 Akcja V — odc. VI pt. „Trzeci most". 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20 Studio Gama. 22.20 Dziennik. 22.35 Studio Gama — c.d.

**Sobota 8 IX** — 8.55 Program dnia. 9.00 Wojsk. film dok.: Drogi do zwycięstwa. 10.05 Poranek z kulturą. 11.35 Rytm czasu. 11.55 Człowiek, Ziemia, Kosmos. 12.25 Do wynajęcia mieszkanie z dzieckiem — radz. film fab. 13.40 Radzimy rolnikom. 13.50 Studio — 2. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Studio — 2 c.d.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 31 VIII** — 8.05 Koncert zespołów dziecięcych. 18.45 Film fab. ser. 20.35 Sopot — 79.

**Sobota 1 IX** — 9.15 Film fab. ser. (powtórzenie). 16.00 P. nożna. Dynamo (Moskwa) — Dynamo (Kijów). 18.15 Koncert dla rodziców. 18.45 Film fab. cz. I. 22.00 Sport.

**Niedziela 2 IX** — 8.05 Koncert. 10.00 Film fab. cz. I. 13.00 Spektakl. 15.10 Klub podróżników. 17.00 Panorama międzynarodowa. 18.00 Koncert życzeń. 18.45 Film fab. cz. II. 20.35 Sopot — 79

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

**Беларуская радыёперадача: субота 12.05—12.25 (UKF).**

## КІНО

**Białowieża** Kombinator — NRD 4—5. Ostatni raz — USA 6—7. Wzgórza Zielengory — jug. 8—9.

**Bielsk Podl.** Dubler — fr. 2—4. Prorok, złoto i siedmiogrodzianie — rum. 5—7. Autostopowicz — czes. 8—9.

**Czeremcha** Biały niedźwiedź — pol. 4—5. Nie będą cię kochać — pol. 8—9.

**Czyże** Colargol zdobywcą kosmosu — pol. Węgrzy — węg. 5—9.

**Gródek** Ciemna rzeka — pol. Polska naszych dni — pol. 8—9.

**Hajnówka** Komisarz w spódnicy — fr. 7—9.

**Michałowo** Zakochani są między nami — pol. 4—5. Południk zero — pol. 6—7. Lunatycy — pol. 8—9.

**Mielnik** Wyspa skazańców — meksyk. 5. Orzeł i reszka — pol. 8—9.

**Narewka** Wśród nocnej ciszy — pol. 5—9.

**Nurzec** Tato ja już wyszłam za mąż — buł. Mały książę — USA 6—7. Do krwi ostatniej — pol. 8—9.

**Orla** Biały Mazur — pol. Gęsiorek Maciek — pol. 5—9.

**Толькі скнара і лянівы не выпісвае „Ніву"**

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa,**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch", Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku. Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 52 zł. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch", Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto PKO nr 1531-71.
Indeks 36911/36671
B.Z.Graf. Zam. 1482. Nakład 7380 egz. S-2

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ.

* * *

*Як хочаш буду тваім богам*
*або ветрам які абыдзе цябе навокал*
*як толькі працягнеш руку*
*на мяне ўсюды натрапіш*
*і расчэшаш мяне нібы грэбенем*
*сваімі кволымі пальцамі*
*або проста на мне абапрэшся*
*каб глядзець у крыніцу плывучага*
*шчасця*

**Алесь Барскі**



**САКРАТ ЯНОВІЧ**

## МАНАЛОГ МЕСТАЧКОВАГА ЗЛОДЗЕЯ

Дваццаць сем гадоў ужо будзе, калі гэта я, зараза, на хлеб-соль зарабляю працаю, як толькі ажаніўся з Канцуроваю Маняй, ну, з сястрой той Голай Фэлі, якую, казалі людзі, нямецкія артылерысты ў вайну вывалаклі яе са склепа ды на загуменні, за Лапуцёвымі слівамі, аддубасілі як мае быць у жыце, упяцёх адну, вось, узялі і разбэсцілі дзеўку ажно па сёння, гэ-гэ-гэ... Малады будучы я, зараза, быў дурны, бы Супруноў чаравік: усе сілы свае пакладаў на рабоце ў складах гнаёў штучных, што, во, стаяць у Жабіным завулку, ну, панад рэчкаю, з-за якой ехалі мужыкі фурманкамі ды чакалі абозам на пажарышчы Чаркесавай хаты, штодзень да ночы, і за пляшку самагонкі дапамагаў ім валачыць мяшкі тыя, пакуль не спадаўся, гы-гы-гы... Начальнік мой тады і кажа мне, каб я, зараза, аб лягчэйшым сабе занятку пакемліў, бо ў гэтых складах, — чаго ён, ясная справа, проста не сказаў, зараза, — марны з мяне цяперака гарэлчын брат ды злодзей, значыць, не карыстаюся даверам калектыву, падтрымкай актыву, ды ўсіх такіх цваных гасцей, та-ак, та-ак, мы-мы-мы... Халеры нямаш на вашы галовы, падумаў я, зараза, мо і праўда: неўдалота з мяне, скапыцень буланы, даверлівец аблавухі, бот, і што там яшчэ найгоршае бывае з чалавекам, ажно гідка паўтараць, каб да бабскага пераду не дагаварыцца, не збулавець дарэшты, бо і нашто, не?... А легальна, ведаеш, дык пазбаўлена мяне гэтай штопудовай пасады, во, за п'янства і, назаўтра, паstaўлена ў краму „Алкаголі"; так называецца, ну, манаполька, што займае канец мураванкі Піндаля, дзе я, зараза, без ніякага дзіва на дзесяць тысяч насмактаў, не ўмеючы красці як трэба, а прытым, не буду граха таіць, бабы пачалі губіць мяне, калі мая Маня ў бальніцу лягла з першым дзіцём, дачкою, якая цяпер замужам у Саколцы, на Сабачынцы там жыве яна, з Франкам, сынам Набіноса, ведаеш, таго бракан'ера на Хапачоўскім хутары, вось так яно і пакантузілася ўсенька, ах... З тых „Алкаголяў", вядома, доўга не чакаючы пуганулі мяне за тыя тысячы не свае ўзятыя, усё роўна, быццам гэта я, зараза, сам папрасіўся даць мне грошыкамі казёнымі пашапацець у пальчыках, белых рук у сябе прычакаць, за прылаўкам карпеючы з раня ды да вечара, як дзень божы доўгі і ясны, пазяхаючы, як той бобік на ўвязі, эх! Тады я, зараза, надумаўся наняцца ў Піндалёў млын, на работу пры каменнях стаць, каб тысячы прапітыя панства сплачваць, але, думаеш, гэта так лёгка? Дурняў наўкола, зразумей, поўна і ніхто іх, як кажуць, не сее, усё самі яны ўзыходзяць, так і каля мяне круціўся адзін добры хлопец, можна сказаць, сябар мой, і ўзяў ён ды пазычыў мне грошай крыху на выдаткі хатнія, даў іх, бы ў строманьь кінуўшы, і за пазыку яго малавеле на той свет не дабраўся

(Працяг на стар. 4)

# ЛОТАЦЬ І ДРУГІЯ (2)

Лотаць паляцеў у космас.
Усе лёталі ў космас і верталіся. Так што ніхто не хваляваўся і не чакаў Лотаца, быццам Гагарына.
Калі б ён нават і загразнуў у нейкай галактыцы, таксама ніхто не прыкмеціў бы таго.

— — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — —

Лотаць марыў.
Авалодала ім прага пераўтварыць людзей у шчаслівых. Нецярпліва пагрэў ён свае рукі перад штучным сонейкам. Затым, абуў на прамерзлыя ногі галёшы шчасця, узяў парасон ды выйшаў на дождж.
Вярнуўся праз гадзіну. На двары было холадна і блукалі там толькі пакінутыя і заплаканыя.

— — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — —

Лотаць быў п'яны на той цудоўны славянскі спосаб, калі зоркі спяваюць у вушах а мора — па калені.
— Іншы раз здараюцца ў мяне праблескі геніяльнасці, — сказаў Лотаць знітаму Штампу.
Але Штамп усяго толькі гікнуў. Невядома, што ён думаў.

— — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — —

Лотацю часам сніцца.
Сніў ён, што вось плыве па вялікай, бурлівай вадзе, у вялікіх, зіхатлівых блісках, і да вялікіх, бурлівых здарэнняў.
Прачнуўся ў цемнаце, гатоў да вялікіх, сусветных...
Яму хацелася піць. Таму малавеле не ўдавіўся сваімі штучнымі зубамі, што нанач намакалі ў шклянцы.

— — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — —

Лотаць сказаў: Не!
— ...больш не буду пляваць на зямлю!
Ён стаў на калені і выцер.

— — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — —

Лотацю падарылі на імяніны гальштук.
Уявіце сабе, першы!
Заўсёды давалі яму шкарпэткі, якія, дарэчы, не паратавалі яго ў рэўматызме.
Тады ў чым жа не паратуе гальштук?!

— — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — —

Лотаць не любіць кондараў ды пеліканаў.
Звычайна, не любіць.
Ну, не любіць і ўсё!

— — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — —

Лотаць знайшоў галёшы шчасця. Праўда, не да пары, адзін галёш на два нумары завялікі, правы. Таму паставіў іх у сенях, для выпадковай патрэбы. Сам ён надалей ходзіць у гумовых ботах.
У галёшах шчасця жонка ходзіць у хлеў. Не думаючы, зусім не думаючы...

— — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — —

Штамп, калега Лотаця, карміў вераб'я.
Верабей з'еў, што давалі яму і нават не ціўкнуў у знак падзякі.
Гэта выклікала ў Штампа горыч. Ён вярнуўся ў кухню, адчыніў халадзільнік і закусіў слязу вялікім лустом пахкага кумпяка.

— — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — —

У Лотаця ёсць вялікае акно. У ім стаяць герані і кактусы, а ўсё супроць ворагаў Лотаця. Бо злыя людзі не любяць прыроды.
Лотаць прыкмеціў рамонак.
Рамонак гэта лекавая расліна.
Добрая на вочы, на паласканне горла і на другія болі.
Лотаць панюхаў рамонак у захапленні.
Усміхнуўся і пайшоў далей.
Ідзе конь з паляй на ланцузе.
Схапіў рамонак разам з другімі канюшынкамі.
Шкада, што не знае, што рамонак гэта лекавая расліна, добрая на вочы і другія болі.

— — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — —

Лотаць расчуліўся.
У ліловым змроку вечара пчолка блукалася на вакзале. Гудзела ціха, непаваротлівая, утомленая...
Урэшце села на шэрую пліту тратуара і прыціхла.
Лотаць нават не прыкмеціў, як яго увапхнулі ў таўкатні пад поезд.

— — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — —

Засвяціў электрычную лямпачку.
Шукаю чалавека!
Прыкмеціў Лотаця. Лотаць як лотаць, нічога спецыяльнага.
А той: вялікі, разумны, з лямпай электрычнай!
Шукаю Чалавека!
Пасвяціў на бяздонную пустыню.
Людзі ўжо паснулі.
Улез у бочку па селядцах і задрамаў, завінуўшыся ў сваю вялікую місію.
Лотаць сеў на кукішкі на пустым пляжы, згорбіўся пад звёздамі, і перасыпаў з рукі ў руку сыпкі пясок і ракавінкі, пакуль не змарыў яго сон.
Як усю зямлю.

**Міра Лукша**



* * *

*час з табой ляжыць прыкрыты блакітам*
*льюцца ўспаміны на мой мёртвы дом*
*ноч калыша тваю недакончаную кніжку*
*якую ты аставіў тут*

*пісаў ты, што любіш захад сонца*
*у лістападаву пару*
*і жоўтасць лісцяў, што ёсць зеленню*
*калі паміраюць дрэвы*
*пісаў ты, што шукаеш дарогі да сваёй зямлі*
*а калі там гасне зорка*
*памяць маўчыць*

*час з табой твая кніжка прыкрыты блакітам*
*як перспектыва маладосці кахання зямлі невядомага*

**Надзея Артымовіч**



* * *

*Альдоне*

Трымаючыся за рукі
ішлі сцежкай
сярод квітнеючага жыта.
— Ці жаваранак
звоніць над намі,
ці гэта твой голас?
Ці гэта валошкі,
ці цвіцуць твае вочы?
Ці сонца так свеціць,
ці гэта толькі
твая ўсмешка
пранікае
ўсю істоту?
Гучнае біццё сэрца
заглушвае песню
жаўрука...

Адходзіш...
Ці гэта імгла,
ці курыцца жыта?
Ці гэта слёзы
на маіх вачах?

**Алесь Батура**

## ЧАМУ СПЯЦЬ ЗІМОЙ СТАНОЖКІ

*Паднялася рана з ложка,*
*Толькі глянула на двор*
*І спужалася станожка:*
*За акном мароз, віхор.*

*Дома муж, дзяцей багата,*
*Што рабіць цяпер, дальбог,*
*Як жа выйсці з цёплай хаты,*
*Як абуць шмат соцен ног?*

*І знайшлі тут выхад нейкі*
*Бацькі, дочкі і сыны:*
*Будзем спаць усёй сямейкай*
*Аж да цёплае вясны.*

*Як трапаў мароз на свеце,*
*На зялёненькі мурог*
*Выйшла маці, бацька, дзеці*
*Выйшла многа соцен ног.*



**Віктар Швед**

## ЗНІМІ...

знімі з сябе ўсе цені...
цені,
якія кладуць мае вочы...
...гэтак ўпарта
шукаючы праўды...
знімі...
знімі датла і пакажы,
што цень міжвольны
сонца не заслоніць...
знімі...
праменнямі
распырскайся
у зрэнках
каб мог
паверыць:
зноў я ашукаўся
ў сваім адвечным
сонечным
імкненні...

**Юрка Трачук**

 

## ГМІННЫЯ НАВІНЫ

### ШУДЗЯЛАЎСКАЯ СТАТЫСТЫКА

Гміна Шудзялава налічвае пяцьдзесят чатыры вёскі. Пражывае ў іх 5 414 асоб, у тым ліку 2 715 жанчын і 2 699 мужчын. Найбольш гаспадарнай і культурнай вёскай з'яўляецца Астравок.

Шудзялаўская гміна мае 16 159 гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў (паказчык банітацыі зямельных угоддзяў 0,81). Індывідуальныя гаспадары маюць у сваім уладанні 11 749 гектараў. Зялёных угоддзяў тут усяго шаснаццаць працэнтаў. У пачатку мінулага года было 1978 гектараў ПФЗ і за дванаццаць месяцаў павялічыўся ён на 298 га. СКР, ПГР і сяляне (вяскоўцы купілі дзесяць гектараў зямлі) загаспадарылі 382 гектары. У канцы мінулага года было 1 894 га дзяржаўнага фонду зямлі.

Летась сяляне мелі ўраджай збожжавых культур у сярэднім дваццаць цэнтнераў з 1 гектара зямельных угоддзяў (сярэдні ваяводскі паказчык 22,1 ц/га) і бульбы — дзвесце цэнтнераў з 1 га (на дзевяць цэнтнераў больш чым сярэдняя ў ваяводстве). У мінулым годзе яны аднавілі дзевяноста тон бульбы.

Хлебаробы Шудзялаўскай гміны падсяваюць сто дваццаць кілаграмаў мінеральных угнаенняў НПК у чыстым складзе на 1 га зямельных угоддзяў (на ўзроўні сярэдняй ваяводскай) і больш 1 300 тон вапны.

Земляробы Шудзялаўскай акругі гадуюць 5 742 штукі рагатай жывёлы (колькасць яе зменшылася ў параўнанні да колькасці ў 1977 годзе), у тым ліку 3 238 дойных кароў, 10 450 свіней (колькасць іх узрасла) і 5 214 авец (колькасць іх зменшылася). Зрабілі яны 707 тон кішонак (дзесятая частка планаванай колькасці). Дзяржаве прадалі: 1354 тоны збожжа (план продажы зернавых выканалі ў 112,8%), 612 тон свіней (план выканалі ў 123,6%), 525 тон валавіны (109,4%) і 5 329 тысяч літраў малака (92,4%).

Вяскоўцы ўзялі 41,2 млн. злотых сельскагаспадарчых крэдытаў, у тым ліку дзевяць мільёнаў злотых на пабудову і мадэрнізацыю сельскагаспадарчых будынкаў: абораў ды стадолаў. У 1978 годзе яны закончылі пабудову васемнаццаці абораў і хлявоў на агульную колькасць 529 месц.

Зараз у гміне існуе трыццаць чатыры спецыялістычныя гаспадаркі. Сяляне найбольш спецыялізуюцца ў гадоўлі быдла і свіней, затым у вырошчванні бульбы-садзэнякаў.

### ГАСПАДАРКА ДУБРОЎСКАЙ ГМІНЫ

У Дуброўскай гміне пражывае цяпер няпоўных пятнаццаць тысяч жыхароў у 54 вёсках. Сельскагаспадарчыя ўгоддзі займаюць 20216 гектараў, у тым ліку ў індывідуальных гаспадароў ёсць 19 400 гектараў. Зялёныя ўгоддзі займаюць 30,9% усёй плошчы гміны. Паказчык банітацыі сельскагаспадарчых угоддзяў 0,88.

У мінулым годзе земляробы аднавілі 227,5 тон яравых збожжавых культур і 965 тон бульбы. Зрабілі яны 14 500 тон кішонак і спаравалі 675 тон бульбы. Падсеялі 116 кілаграмаў НПК у чыстым складзе на 1 га ўжыткаў (сярэдняя ваяводская 120 кг/га). Апрача таго падсеялі 550 тон вапны.

Хлебаробы Дуброўскай гміны прадалі дзяржаве 1548 тон збожжа, 1056 тон жывой вагі свіней, 1028 тон ялавічыны і 9308 тысяч літраў малака. Гадуюць яны 11 683 штукі быдла, у тым ліку 6 178 дойных кароў, 19 465 свіней і 4 135 авечак. Збіраюць ураджаі асноўных збожжавых культур у сярэднім 21 ц з 1 га і бульбы — 182 ц/га (у абодвух выпадках крыху ніжэй сярэдняй ваяводскай).

У 1978 годзе кожная дуброўская гаспадарка прадала сельскагаспадарчых прадуктаў у сярэднім за 70,7 тыс. злотых.

Сяляне ўзялі 32,7 млн. злотых крэдытаў, у тым ліку 5,4 млн. злотых на інвестыцыі. Яны пабудавалі 36 сельскагаспадарчых будынкаў (на 843 месцы) і мадэрнізавалі 23.

У гміне заснавалася 99 спецыялістычных гаспадарак, з якіх 74 заняліся жывёлагадоўляй у шырокім маштабе. Напрыклад, Андрэй Гайкоўскі з Градзішчанаў заняўся гадоўляй кароў (мае ён абору на 36 месц) і Станіслаў Ступак з Ольшы завёў у сябе курэй-нясушах (мае іх пяць тысяч штук). Маюць яны высокія даходы са сваіх гаспадарак.

(яц)

## ДВА замілаванні



Тэма Грабаркі.

(Працяг са стар. 1)

гародах, рашэннях журы розных конкурсаў пра занятыя ім месцы, выразанымі з газет і часопісаў рэцэнзіямі на паасобныя яго акварэлі, алейныя карціны, графіку. І найважнейшае: пасведчанне з Міністэрства культуры і мастацтва аб прызнанні яму за дагэтуляшнія творчыя дасягненні правоў мастака-прафесіянала.

Уся яго кватэра застаўлена і завешана карцінамі. Гляджу на акварэлі. Вось тая, што яшчэ ў 1961 г. заняла трэцяе месца на агульнапольскай выстаўцы. — „Домікі на пагорку". У мяккім мараве цёплага веснавога ранку панарама невялікага горада. Няцяжка ў ім пазнаць сілуэт Сямяцічаў. Або „Асенні пейзаж". Надзвычай лёгкі. У асноўным адценні двух колераў: жоўтага і карычневага. Пустое поле, голы алешнік, абмоклая загарада з крывых жэрдак і душэўная раўнавага, спакой, аптымізм. Ці алейныя карціны. Хоць бы гэтыя самыя „Дамы ў агародзе". Багацце колераў, нейкая асаблівая манументальнасць, поўная гармонія твораў прыроды і збудаванняў чалавека. Або надзвычай разнастайная тэма Грабаркі. Мэта паломніцтва ўсяго польскага праваслаўя. У розныя поры года: у дрыжачым мараве ўсмажлівага жніўня, якраз перад самым Спасам, быццам у чаканні, што вось-вось усё яе наваколле запоўніць многатысячны натоўп верных. У сярэбранай цішы калядная ранку, калі звон з царкоўнай званіцы выклікае цэлую сімфонію водгулля. У мяккай і павабнай зяляніне мая. У оргіі восеньскіх колераў. Грабарка ў набожным забыцці старэнькай манашкі, Грабарка пад шатром гонкіх меднастволых сосен, Грабарка з цурчэннем жыватворнай крыніцы. Або рака Буг: зімою ў пакарэжаных падспуднай плынню ільдзінах, летам у засені задуменных вербаў. І яго ж тхненне ў тапалёвым гаі, дзе дрэвы па калені бродзяць у залатой асенняй лістоце. Цяжка адарваць зрок ад палетка з дзікай грушай. На ім ніва цяжарная ўраджаем патанае ў чырванаватым водбліску споўненага спадзявання. Спакойная. Спелая. І ў ёй груша-дзічка — вечная жыхарка нашых палеткаў, разгалістая, вабячая сваёй прахаладдзю ў спякотнае жніво...

Надта ж цікавая графіка. Пошукі самыя разнастайныя: замалёўкі з натуры і незвычайныя, фантастычныя формы. Многа, вельмі многа здзейсненых задумаў і назіранняў...

Хоць у Л. Вішанкі не мала нацюрмортаў, партрэтаў, замалёвак і карцін, што паўсталі ў выніку падарожжаў у Маскву, Адэсу, Будапешт, у розныя маляўнічыя мясціны Польшчы, ён заўсёды верны свайму роднаму Пабужжу.

— Я, праўду сказаўшы, — прызнаецца ён, — люблю моладзь і родную зямельку...

**Мікалай Гайдук**

(Працяг са стар. 3)

## МАНАЛОГ МЕСТАЧКОВАГА ЗЛОДЗЕЯ

ў Ваўчыцы — Шырокай Чаркі, цьфу-цьфу, падла!... Я, зараза, не такі балван, якім прыкідваюся, вось, хоць і ўстаю досвіткамі, каб маторы нагрэць да часу, калі людзі збожжа пачнуць завозіць, мужычччо ўсякае, і не першы раз так бачу тое, як пад'язджае да дзвярэй млына, сунецца, грузавік з пагашанымі фарамі, (а ведаю, чый ён, бо гэсаўскі,) ды раз-два назвальваюць з яго, адны такія хлопчыкі, мяхоў паўнюткіх пад завязкі, ажно, так сказаць, сапуць яны, злятаючы пярэкіддзем, і неўзабаве шафёр дае газ, самаходзіна рыкне-шмыгане, ды столькі іх ты і бачыў, хэ-хэ-хэ... Аднаго, гэтага віхрыстага, — з Дубровак ён! — то я даўно ведаю, ля могілак хату ён паставіў сабе, яксьці хутка пасля таго, як брат старшы яго павесіўся, дзеўцы байстручка прыдбаўшы, бо памятаю, што, калі кветку запівалі, сястра ягоная ўпілася, як зямля, і ўзяла ды пад машыну на шашы незнарокам падлезла, галаву расплюснула ёй, а бацька ягоны дзесьці потым нагу зламаў і, не бавячыся занадта ў хваробу, памёр, эгэ, пад Каляду або трохі пазней, словам, цяжка зразумець іхнюю сям'ю, эгэ-эгэ-эгэ... Ім, гэтым камбінатарам здаецца, што я, зараза, калі што і бачу, дык нічога не разумею, значыць, горшы ад іх злодзей, няварта са мною перашэпты пачынаць ці хаця б руку на прывітанне працягнуць, або „дзеньдобры" сказаць такому асталопеню ў гумавых ботах, іначай кажучы, піндалёваму падноску, млынарчыку падгаламу, які грошы вялікія адно ў бандыцкіх кінафільмах злічвае, бы тая бабуся — сыскападобныя прэзерватывы пад ложкам даччынага курвяняці ўпорань, пасля культурных па-цяперашняму імянінаў, га-га-га-га...

А я, зараза, каб ты тое ведаў, ёсць лепшы злодзей!

І сваю долю грашыскаў ад крадзяжу пад маім носам я, зараза, мецъ мушу ад іх, каб яны не ведаю як прасіліся-адпрошваліся ад мяне, рукі-ногі мае мылі ды ваду гэту пілі, сабакі!..

Няхай спрабуюць яны не захацець, дык я, зараза, ім такі нумар накручу, такога перцу пад хвасты панасыпаю, гэтак зраблю, што міліцыя тут як тут наляціць на ўсю тую Піндалёўшчыну, цапане хапуноў кааператыўнай пшаніцы, бо гэта мяшыскамі яе валочаць-збываюць, за нішто маюць зерне адборыстае, што агенты закупляюць у чарназёмных Піражках; ведаеш землі ў тых карпачоў, — нябось, тлустыя; расце на іх, ого, як расце...

Мудрыкі на хітрыкі... я, зараза, лепшы за вас злодзей...

Не ў крыўду кажучы каму, — лепшы з лепшых!!!

**Сакрат Яновіч**

(Працяг са стар. 1)

## А КРЫВІ САЛДАТ НЕ ШКАДАВАЎ



Аб усім гэтым галоўнае камандаванне Польскай Арміі падумала надта ж позна і, калі ў маі 1939 года гэты раён асабіста наведаў маршал Эдвард Рыдз-Сміглы, працы пры абаронных збудаваннях фактычна толькі што пачыналіся.

Аб іх размеркаванні і баявой здольнасці вораг меў, на жаль, дакладныя звесткі. На Беласточчыне зусім яўна і афіцыйна дзейнічалі шматлікія нямецкія арганізацыі, між іншым, Нямецкі народны саюз, Партыя маладых немцаў, Саюз моладзі і Аб'яднанне нямецкай евангеліцкай моладзі. Мелі яны свае звенні ў Беластоку, Міхалове, Віжайнах ля Сувалкаў, у Мар'янове пад Ломжай і ў многіх іншых мясцовасцях, дзе жылі нямецкія каланісты, фабрыканты, ці рамеснікі. Гебельсава прапаганда і маланкавыя заваёвы фюрэра многіх з іх папхнулі ў абдымкі нацыстаў. Супрацоўнічалі яны з нямецкай разведкай, стваралі дыверсійныя групы, арганізавалі тайную сетку даверных людзей, якіх называлі V-манамі.

Камандуючы армейскай групай „Поўнач", генерал Георг фон Кіхлер, яшчэ тыдзень да пачатку агрэсіі запэўніваў сваіх падкамандных, што палякі на працягу першых дзён патрацяць баявую здольнасць і не змогуць правесці наступлення. Для прарыва польскай абароны выбралі яны раён між Ломжай і Навагрудам. Выбралі трапна, бо сапраўды быў гэта найслабейшы пункт на польскім баку ў зоне дзейнасці і групіроўкі „Нараў". Тут яна сутыкалася з арміяй „Модлін", а баявыя дзеянні гэтых абедзвюх армейскіх групіровак, як паказала практыка, далёкія былі ад дасканаласці.

А ўсё ж... Найлепш аднак адклікацца да ўспамінаў. Генерал Гайнц Гудэр'ян — камандзір бронетанкавага корпуса, які атрымаў загад якраз прабіцца з Усходняй Прусіі ў напрамку на Ломжу, Навогруд і Беласток — дзевятага дня вайны, між іншым, запісаў:



Вераснёвая кампанія на Беласточчыне.



 

ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

# ЛЯВОН АНІШЧУК

Яму ўсяго дваццаць год. Жыве ў вёсцы Барок у Гайнаўскай гміне. Ужо трэці год самастойна вядзе пятнаццаці-гектаровую гаспадарку (зямля тут пераважна трэцяга і чацвертага класаў). У 1978 годзе купіў трактар ды некаторыя падвесныя сельскагаспадарчыя машыны. Мае ўласную бульбакапалку, касілку, раскідвач гною. Купіў іх сёлета.

Малады земляроб пачаў спецыялізавацца ў гадоўлі малочных кароў і мяснога быдла. Мае шэсць шаралезаў і чатыры дойныя каровы пароды нцб, ад якіх прадае кожны дзень на пункце скупкі ў Пасечніках па 50-55 літраў малака. За дзевяць тысяч злотых у месяц. Каровы доіць пры дапамозе электрадаілкі.

Лявон Анішчук мае сельскагаспадарчую падрыхтоўку. Сочыць за навінкамі фаховай сельскагаспадарчай літаратуры. Ён намераны мадэрнізаваць абору (у ёй будзе падключана вада і зроблены паілкі, а таксама павялічыцца месца для яшчэ двух кароў). Для кароў вырошчвае кармавыя буракі і кукурузу. Частку кукурузы і лісце буракоў сіласуе.

Для дзяржавы малады гаспадар прадасць сёлета паўтары тоны валавіны і шэсцьсот кілаграмаў свіней. У мінулым годзе прадаў ён чатыры тоны збожжа і дзве тоны бульбы.

Сёлета хлебароб меў два гектары пшаніцы, адзін гектар жыта і два гектары аўса. Мае яшчэ паўтара гектара бульбы.

Лявон Анішчук задумаў прыдбаць у сябе дома ваду з крана і лазенку. Апрача таго захацеў памаляваць дом. Зараз яго сяліба прыгожа абгароджана стройным памаляваным плотам і жалезнай брамай.

Гэта для сябе. А што ён зрабіў для вёскі? Зімою Лявон Анішчук супольна з вяскоўцамі адснежваў мясцовыя дарогі. Спіхаў снег пры дапамозе трактара. Вясною ў грамадскім чыне будаваў дарогу з Барка ў Пасечнікі Вялікія і садзіў дрэўцы паабапал яе.

(яц)

# КАЛІ БАЦЬКІ ПРЫ ЖНІВЕ

Вельмі пастараліся арганізатары летняга адпачынку для дзяцей у гміне Міхалова. Пра гэта гутарылі мы з намеснікам дырэктара гміннай зборнай школы Нінай Вазнеўскай. На час жніва арганізаваны тры вясковыя дзяцінцы для ўсіх ахвотных дзяцей у Міхалове (тут было 36 асоб), Юшкавым Грудзе (20 асоб) і Ялоўцы (25 асоб). Да палавіны жніўня дзейнічалі дзяцінцы ў Юшкавым Грудзе (вялі яго настаўніцы Рэгіна Казбярук і Валянціна Кардаш) і ў Ялоўцы (вёў яго настаўнік мясцовай школы Яўген Лешчук). Міхалоўскі СКР паклапаціўся пра аснашчэнне пляцовак для дзіцячых гульняў, купіў яшчэ матрацы і пледы. Сельскагаспадарчая прадукцыйная спулдзельня (РСП) у Кандратках забяспечвала ялоўскі дзяцінец харчамі (у гэтым дзяцінцы было многа дзяцей, бацькі якіх працуюць у РСП). У мінулым годзе дзяцінец у Ялоўцы быў арганізаваны летам і восенню.

борная гмінная школа арганізавала восем вандроўных лагераў, у якіх скарысталася 160 чалавек. Школьная моладзь пазнаёмілася з маляўнічымі ваколіцамі Гданьскага, Кашалінскага, Сувальскага, Новасандэцкага і Беластоцкага ваяводстваў.

Гміннае праўленне ТПД у міхалоўскай школе арганізавала паўкалоніі для дзяцей з бяднейшых сем'яў. Удзельнічала ў іх 45 чалавек. Сямёра дзяцей было звольнена ад заплаты.

У рамках акцыі нялагернага лета (НАЛ) удзельнічала восемсот дзяцей. Вялі іх гарцэры. Апекаваліся яны нават малымі дзецьмі. Найлепш НАЛ праходзіў у вёсках: Ялоўка, Залешаны, Геранімова, Тапаляны, Рыбакі, Юшкавы Груд, Кухмы і Пянькі.

З адпачынку ў горадзе скарысталася 160 дзяцей. Выязджалі яны ў Беласток, Хэлм Люблінскі, Седльцы, Белую Падляскую, Дуброву Беластоцкую і Бельск Падляшскі.

Падлячыцца выязджала адзінаццаць дзяцей. Для іх былі арганізаваны ў Беластоцкім ваяводстве спецыяльныя лагеры ў розных мясцовасцях.

**Я. Целушэцкі**

М. ШАХОВІЧ

# З народных ГАВОРАК

**бабка** — падбярозавік. Паглядзь якая валіка бабка. А ў нас у барэзіне такія бабкі за нуоч павыраслалі... Бабка — бабкаю, браць барэш, але радасць не тая як ад грыба.

**гарах** — страчок, грыб з сям'і смаржковых з чырванава-буравaтай ці каштанава-карычневай, з хвалістымі складкамі няправільнай формы, шапкай. Ножка ў страчкоў белая або буравaтая, нярэдка з ліловым адценнем. Нашто ты для маніэ гарахаў накідаў? А што, ты гарахі барэш? Гэта не грыб, гэта гарах.

**куозлы** — мае два значэнні, раз выступае як прылада да рэзання дроў, другі — ахоўвальнікі ад ветру саламянай страхі. Прынэсь куозлы, дровы рэзаць будзем. Згнілі куозлы і пашці што ўсе астрышанці на стадоле пазрывала.

**сырнік** — рыбацкая прылада, сачок. Вымай сырнік, па рыбу пойдзем. А ты бары сырнікам так буольш пад бэраг.

**чаша** — цэбрык да рыхтавання свінням ежы. Вазьмі чашу і занэсь свініэ вылій. А свіням гэта тут, у чашы?

**шыкарна** — прыгожа, добра. О, якую ты шыкарну хату паставіў! Шыкарна табе касцюмчык пашылі.

*(Ляўкова, гміна Нараўка).*

АДГАЛОСКІ

## ЧАМУ МОЛАДЗЬ УЦЯКАЕ З ВЁСКІ

**Па шчырасці**

Зацікавіў мяне „Голас маралiста“ Дзеда Кастуся з дыскусіі „Чаму моладзь уцякае з вёскі?“ У ім аўтар выказаў многа праблем. З некаторымі нельга не згадзіцца. Напрыклад: што за санацыі жылося цяжка і хлеб быў вялікім госцем на стале. Але гэта было тады, калі вярталіся з бежанства нашы бацькі, бо пасля, у 30-ыя гады, мо мяса было і рэдкім госцем, але хлеб быў. Так кажа мой бацька і многія іншыя з нашай вёскі. А наша вёска Дубічы Царкоўныя не была багатай, бо зямля ў нас лёгкая. І тут, здаецца, Дзед Кастусь пераборшчыў.

Людзі пасцілі, але на гэта меў вялікі ўплыў аўтарытэт царквы. Іншая справа, што ў кожнага была вялікая сям'я і ўсе разам цясніліся ў адной хаце, з навукай было цяжка, і дадатковыя грошы зарабіць было цяжка — людзі жылі ў асноўным толькі з зямлі. Таму зразумела, што ў сям'і з 8-9 чалавек мяса магло быць рэдкім госцем.

Сёння справа іншая. Калі здольны — можаш вучыцца колькі хочаш. Працы ўсюды хапае. Таму моладзь уцякае ў горад. Бо ведае, што і веды яго, і рукі спатрэбяцца. І ведае таксама, што ў горадзе яму проста лягчэй будзе, чым у вёсцы.

Хаця Дзед Кастусь сцвярджае, што сёння праца на вёсцы не такая ўжо цяжкая, бо большасць работы робіцца машынамі, але машына сама ўсяго не зробіць, хопіць па самую шыю і для чалавека. Ды і не кожны мае ўсе машыны, як трактар, снопавязалку. Яны ў нас дарагія і селяніну, які мае нямнога гектараў (а такіх вельмі многа) не аплаціцца іх купляць. А як атрымаць машыну ў СКРы, мы ведаем. Гэта нялёгкая справа. Найменш тыдзень трэба туды хадзіць, каб неяк выенчыць машыну. І гэта таксама прычына, што моладзь уцякае ў горад — бачыць балаган у вёсцы.

Ды ўсёроўна — на дрэннай зямлі і сёння не разбухаешся і не навядзеш вялікай спецыялізацыі. Для прыкладу — у Дубічах Царкоўных зямля сярэдняя, больш пясчаная. І цікава, як жылося б, каб жыць толькі з адной гаспадаркі. Бо факт ёсць такі ў нас, што 90% сялян працуе дадаткова на чыгунцы, па ГСах і іншых прадпрыемствах. Таму сяляне ў нас і пабудаваліся, пакуплялі матацыклы, халадзільнікі, сціральныя машыны, а нават уласныя аўтамашыны.

У суседняй вёсцы Грабавец ужо больш сялян трымаецца зямлі і пастаронні гатоў падумаць, што мураванкі, якіх там вельмі многа — з працы на зямлі. Гэта не так. Мураванкі там пабудавалі за саламяныя каробкі, якіх плялі страшна многа, і сёння плятуць. Там дзіця ў 5 гадоў тым рамяством ужо займаецца. Зямля ў Грабаўцы добрая і дае нядрэнны даход, але раздроблена.

Што датычыць факту, што ў вёсках няма кіно, тэатраў, цырку, філармоніяў: і гэта нібы прычына, што моладзь з недахопу культуры ўцякае ў горад: гэта амаль чыстая абстракцыя. Калі захочаш знайсці культуру, уключаеш тэлевізар, радыё, чытаеш кніжку ці газету.

Моладзь уцякае, бо ведае, што веды кожнага з іх больш спатрэбяцца ў горадзе — у прамысловасці, ва ўстановах і на іншых адказных пасадах, ды і будзе там яму намнога лягчэй.

Ды яшчэ ў нас і так за цесна па вёсках, бо, для прыкладу, у высокаразвітых дзяржавах свету (Злучаныя Штаты, ФРГ, Францыя, Японія) толькі некалькі працэнтаў насельніцтва працуе на зямлі.

Дзед Кастусь піша, што пры малой нават ініцыятыве можна на вёсцы сёння пабудаваць уласны дом. Хіба ён не будаваў, калі так піша. Бо я ведаю гэты смак, маю свой мураваны домік (нават дом), каля пабудовы якога амаль не падарваўся. Цяжкасці былі з куплівам розных матэрыялаў. А вось і ў апошні час праз цэлае лета нідзе няма цэменту.

Вось бачыце. Ды нават і багаты селянін — спецыяліст, які мае ўсе ўласныя машыны, пабудаваны на „сто два“, напатыкае перашкоды. Вось дапусцім ён яшчэ халасты, а так часта здараецца на вёсцы. І не можа ён знайсці сабе палавіну — жонку. Дзяўчаты не хапаюцца за багацтва. Лепш за камінара пойдзе, абы ў горад. Уцякаюць у горад, каб лягчэй пражыць („хоць неўежна, але ўлежна“).

Во які час настаў, даражэнькія!

**Мікалай Панфілюк**

ФАЛЬКЛОР

### ВЯСЕЛЬНАЯ




*Кацілася чорна галанька па бару,*
*а за ёю млоды панічык на каню:*
*— Пастой, пастой, чорна галачка, штось скажу!*

*— Я не пастаю, я ні хачу, бо ты пан,*
*шукай сабе такое пані, як ты сам!*
*— Я праехаў чатэры мілі, пяты вёрст —*
*та ні нашоў такое пані, як ты ёсць.*

Ад Антаніны Лясоты, 1901 года нараджэння, вёска Цісоўка гм. Міхалова, якая цяпер жыве ў Беластоку, запісаў у сакавіку 1979 г. Мікалай Гайдук, мелодыю расшыфравала Людміла Панько.



# Добрае сапсавалі, а лепшага не зрабілі

(Працяг са стар. 1)

хаць. Не то што ўзяў касу на плечы і пайшоў. Фуры не панясеш, — са злосцю гаворыць наступны.

— Ну, а чынам, тут жа быў чын? — пытаю.

— Пане, чаму сюды не прыйдзе той, што пісаў пра гэты чын? Мы чыталі ў газеце. Чын. Але з чаго рабіць, брук вывезлі, зямлю таксама, з чаго? Прывезлі во, некалькі выврoтак, ды і то пасыпалі ў канцах, бо далей не даедуць.

— Мы разумеем, што ёсць дрэнныя вуліцы, трэба іх ладзіць, але ў нас была добрая, дык навошта было псаваць. А як пачалі, то трэба закончыць, каб хаця праезд быў. Што думае начальства, чым яно займаецца?

— Што думае?! У нас то ў нас, але Гагарына! Тры гады, як раскапалі, і нічога не робяць. А гэта быў даезд да магазінаў, там жа ўсе склады: і паліва, і ўгнаенні, і скупка жывёлы. Нядаўна „Жук“ з тэхнічнай дапамогі як уляцеў, так і сеў, то прыйшлі і рукамі выпіхаць ды выносіць мусілі. Нічым не выцягнеш, не пад'едзеш. Колькі там ужо райсораў у машынах лопнула...

— Ну а што начальнік горада, выканаўца — мясцовае Прадпрыемства жыллёвай і камунальнай гаспадаркі?

— А! — згодна махнула рукою некалькі чалавек. — Спытайце, можа вам вытлумачаць, мы адно ведаем — сапсавалі добрае, а не зрабілі лепшага.

**М. Шаховіч**
Фота аўтара

*„...Спроба ўзяць Ломжу ў першым баі аказалася беспаспяховай з увагі на мужную абарону палякаў... Калі я прыехаў у Візну, дык асабіста пераканаўся, што аптымістычны рапарт аб поспехах 10 бронетанкавай дывізіі, які атрымаў я рана, не адлюстроўвае дакладнага становішча. Пяхота толькі змагла фарсіраваць раку, але не прабілася нават да лініі прыбярэжных бункераў. Тут іх спынілі палякі.“*

У гэтых бункерах трымаў абарону капітан **Уладзіслаў Рагініс**. Пад яго камандаваннем знаходзілася 20 афіцэраў і 700 радавых. Мелі яны 6 лёгкіх палявых гармат, 28 цяжкіх і 18 ручных кулямётаў. Генерал Гудэр'ян паслаў на іх свае танкі, самалёты і 40 тысяч салдат. Цэлы дзень і ноч ішоў смяротны бой. Апошнія адстрэльваюцца бункеры ля вёсак Перкусы і Малішэва. Каля абеду 10 верасня немцы штурмуюць дот камандзіра. Становішча стаецца бязвыхаднае. Няма боепрыладаў, салдаты, астаўшыеся ў жывых, падаюць ад стомы і ран. Капітан Уладзіслаў Рагініс, таксама ўжо цяжка паранены, загадвае пакінуць дот сваім падкамандным, сам аднак не здаецца. Салдацкі гонар падказвае адзіны выхад: апошнюю кулю сабе...

Так, салдаты вераснёвай кампаніі не шкадавалі ўласнай крыві для абароны Радзімы. Так было на ўсіх франтах баявых дзеянняў з гітлераўскімі захопнікамі. 4 дні маёр **Сікора** са сваімі воінамі абараняў Навагруд. Гэта там, даведзены да крайнасці сваёй бездапаможнасцю супраць варожай авіяцыі, камандзір 8 роты, паручнік **Эдвард Тарчаловіч**, схапіў ручны кулямёт і, нягледзячы на безупынны абстрэл, на вачах усіх сваіх салдат пачаў страчыць да нямецкіх самалётаў. Страляў, пакуль змог утрымаць кулямёт у руках. Кроў цякла яму з ран, а ён, абапёршыся аб дрэва, усё яшчэ страляў. Разам з камандзірам загінула цэлая яго рота. Маёр Тадэуш Рыдль асабіста павёў сваіх салдат у атаку, якая закончылася сутычкай на штыкі. Адбілі яны Навагруд, аднак маёр і палавіна яго салдат асталіся на полі боя...

Бо, сапраўды, крыві салдаты не шкадавалі. Але адным геройствам вайны не выігрываюць. На дадатак супярэчлівыя загады вышэйшага камандавання толькі паглыблялі становішча. Пасля 12 дзён баёў з групіроўкі „Нараў“ асталася больш забітых і параненых, чым жывых і здольных да дзеяння. Аднак і тады не ўсе салдаты здаліся ворагу. „Некаторыя з іх, як праслаўлены **„Губаль“** (маёр Г. Дабжанскі), тут, у лясах над Бебжай, пачалі партызанскую барацьбу. Пра іх подзвігі расказвае цяпер пастаянная выстаўка ў музеі Войска Польскага ў Беластоку.

**Віктар Рудчык**

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка. Жыву я на вёсцы. Маю сястру і брата. Брат пару гадоў назад выехаў у горад і там жыве. А сястра выйшла замуж і жыве разам з намі. Швагра я ведала і раней, бо з сястрой ён хадзіў аж чатыры гады і часта наведваў наш дом. Здаралася і так, што сястры не было дома і тады я з ім сядзела, гаварылі на розныя тэмы, жартавалі. Нават аднойчы я пайшла з ім на забаву, бо сястра кепска сябе адчувала і не захацела ісці. Калі ажаніўся і прыйшоў жыць да нас, надалей быў вельмі мілы, таксама жартаваў, нават часам і пацалаваў. Але я не звяртала на гэта ўвагі, бо ж гэта ўжо член нашай сям'і, блізкі ўсім нам чалавек. Але з часам усё больш ён да мяне прыміляўся, а ўрэшце я пераканалася, што гэта не так выглядае, як я думала. Аднойчы мы былі ўсе ў полі. Прыйшлі змучаныя з поля і швагер запрапанаваў, каб пайсці на рэчку пакупацца. Сястра ўжо цяжарная і яна не захацела ісці. І мы пайшлі са шваграм. Спачатку плавалі, потым швагер схапіў мяне і стаў абдымаць, і запрапанаваў такое, чаго я ніколі не спадзявалася. Я яго моцна абругала і стала мне сорамна за тое, што я да гэтай пары думала, што швагер, гэта мой прыяцель, трактавала яго як брата, як свайго, а ён вось чаму так ахвотна са мной сядзеў, жартаваў, ішоў на забаву! Я тады адразу пайшла дамоў. Ён даганіў мяне і перапрашаў, прасіў вельмі, каб я нічога не гаварыла сястры і нікому ў хаце. Я нічога не адказала. Прыйшлі дамоў разам. Але мучыць мяне вельмі, што сястра не ведае які ён, верыць яму. Не ведаю, ці сказаць ёй? Ці затрымаць гэта толькі сабе, як прасіў швагер. Ды як цяпер мне адносіцца да яго? З тымі пытаннямі звяртаюся да цябе, Сэрцайка. Парай, буду вельмі табе ўдзячна.

Аня з Бельшчыны

Аня! Пішаш, што сястра верыць швагру, не падазрае яго. Гэта важнае ў сям'і. Узаемны давер умацоўвае сям'ю. Калі ты ёй скажаш такое, яна пачуецца расчараванай, страціць давер да мужа, не абыдзецца без сваркі, ды і цяжка прадбачыць, якія будуць кансеквенцыі таго для сям'і сястры. А ты цяпер захавай большы дыстанс у адносінах да швагра, ды думаю ён і сам перадумае свой нетактоўны паступак і зразумее сваю памылку.

**Сэрцайка**

## ФОТА ПА ЗАКАЗУ

## AURA



## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Суд прыгаварыў З. на кару абмежавання свабоды на адзін год. З. працуе ў дзяржаўным прадпрыемстве і яму вылічваюць 10% зарплаты. Ніякія іншыя абмежаванні да яго не прымяняюцца. Дык чым у сапраўднасці розніцца кара абмежавання свабоды ад штрафу? А як было б, каб З. працаваў толькі на сельскай гаспадарцы?

АДКАЗ: Кара абмежавання свабоды трывае ад трох месяцаў да двух год. У часе, на які прыгавораны абвінавачаны на гэту кару, ён падлягае розным абмежаванням. Перш за ўсё, ён не можа без згоды суда змяніць месца пражывання. Калі ён працуе ў грамадскім прадпрыемстве, ён астаецца на сваім месцы працы, а суд загадвае вылічаць яму на дзяржаўныя або грамадскія мэты ад 10 да 25% зарплаты. Прыгавораны не мае права ў гэтым часе дэнансіраваць умову працы. Не можна яму ў гэтым часе прызнаць вышэйшую зарплату або паставіць на вышэйшае становішча. У адносінах да асобаў, якія працуюць не ў грамадскіх прадпрыемствах (прыкладна сяляне або рамеснікі) суд загадвае выконванне бясплатнай, пільнаванай працы ад 20 да 50 гадзін у месяц. Калі ж прыгавораны нідзе не працуе, суд можа скіраваць яго да грамадскага прадпрыемства і ўстанаўляе, што з зарплаты яму будзе вылічвацца 10 да 25%.

У часе адбывання кары прыгавораны не можа выконваць абавязкаў у грамадскіх арганізацыях.

Незалежна ад таго суд можа абавязаць прыгаворанага, каб направіў шкоду, зробленую злачынствам поўнасцю або часткова, а таксама, каб папрасіў прабачэння ў пакрыўджанага.

## ВЕР-НЕ ВЕР

Дарагі Астроне! Мне сніцца часта такі сон. Быццам я вучуся ў школе, а сапраўды я даўно ўжо не вучуся. У снах мне здаецца, што я не зрабіла ўрокаў, і мне страшна, што атрымаю двойку. Але мне заўсёды ўдаецца спісаць ад каго-небудзь, хаця пісаць чамусьці цяжка і я прачынаюся.

Што абазначаюць такія сны?

Другі сон паўтараецца, як і першы. Здаецца вайна, немцы хочуць мяне застрэліць. Я ўцякаю па палях, зялёных травах, кустах і там хаваюся. Потым даведваюся, што забілі майго брата, і вельмі плачу.

Ніна

**Ніна!** Ты або замнога перамучваешся псіхічна, або замнога ясі нанач. Не наядайся, бо кашмарныя сны табе не дадуць спакою! А вядома які гэта страх — не зрабіць урокаў і не даць рады нават спісаць! Не пераймайся, аднак, нават Астрону сняцца часам сны, што не можа рашыць задачы па алгебры! Так што ты тут не адна. Што датычыць другога сну, думаю, ён навеяны рэмінісцэнцыямі з мінулага. Многія яшчэ, на жаль, памятаюць, як мусілі ўцякаць ад ненажэрнай кулі нямецкіх фашыстаў, і сёння яшчэ неба замест блакіту, нясе ім у снах самалёты, бомбы і чорны дым...

**Астрон**

## Куток практычных ведаў

### ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

### ФАРШЫРАВАНЫ ШЧУПАК АБО ТРАСКА (ДОРШ)

На 650 г траскі (філетаў дастаткова 450 г), або 750 г шчупака трэба ўзяць 50 г булкі, 70 г цыбулі, 1 яечка, 10 г цукру, 25 г масла, соль, перац, амлет з двух яечак, 100 г свежага шпінату, а апрача таго валашчыну з цыбуляй, літр вады, 15 дэкаў жэлаціну, лыжку таматнага канцэнтрату, соль.

Рыбу ачысціць ад касцей (калі трэба, зняць скуру); палову мяса змалоць у мясарубцы разам з намочанай і выціснутай булкай, дадаць яечка і крыху падсмажаную цыбулю, соль, перац і ўсё добра размяшаць. Рэшту сырога мяса парэзаць у палосачкі і дадаць да атрыманай масы. Ачышчаны і памыты шпінат палажыць у кіпячую ваду і варыць 5 мінут, пасля адцадзіць і выціснуць у сцірачцы, пасячы, запраўляючы па смаку соллю і цукрам.

Падсмажыць амлет з двух лёгка збітых яечак; выліць яечкі на разагрэты на патэльні тлушч, а калі яны падсмажацца, разлажыць зверху шпінат і загарнуць амлет у рулецік.

Рыбную масу разлажыць роўным пластом на вільготную сурвэтку, спырснутую соевым алеем. На сярэдзіну палажыць згорнуты амлет, залажыць бакі масы так, каб атрымаўся валік. Загарнуць яго ў сурвэтку, звязваючы добра два канцы. Зварыць, кладучы ў кіпячую пасоленую ваду, варыць мінут 20-25 на не надта вялікім агні. У каструльцы ж ці брытфане рыба павіі астыць.

Падрыхтаваць жэле: зварыць з валашчынай, цыбуляй і зёрнамі перцу косці і галаву рыбы, дадаючы памідорны канцэнтрат, працадзіць. Дадаць размочаны ў халоднай вадзе жэляцін, добра вымяшаць, пакуль не распусціцца. Астудзіць. Халодную рыбу выняць з сурвэткі, парэзаць, палажыць на талерку і заліць жэле. Можна ўпрыгожыць яе пятрушкай, лісткамі салаты і часткамі памідораў. Паставіць рыбу ў халадзільнік.

**Гаспадыня**



## ТАЙНЫ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ




Маёр прайшоўся ўзад і ўперад па кабінеце.

— Гэты Родэ даволі дзіўны. Вы, прафесар, магчыма, не звярнулі на гэта ўвагі, але ён трымаецца з намі зусім інакш, калі паблізу бачыць сваіх суайчыннікаў. Сярод нас ён адчувае сябе нібы больш упэўнена. Вось хоць бы ўчора, калі ён прыйшоў на работу з жонкай? Абодва выглядалі так, нібы прынялі нейкае важнае рашэнне, якім хочуць падзяліцца з намі. У нейкі момант ён нават пачаў гаварыць аб стратах, якія нясе вайна сусветнай культуры, але ў гэты час прыйшлі нямецкія рабочыя, а пазней з'явілася тая прыбіральшчыца, захопленая ноччу, і ён тут жа перамяніў тэму размовы. А памятаеце, як ён занепакоіўся, убачыўшы знойдзеную скульптуру і крэсла з Кацярынінскага палаца? Не падобна, каб прыкідваўся. Я не сумняваюся, што ён па-сапраўднаму любіць мастацтва і перажывае за яго лёс, але разам з тым баіцца сваіх.

Ён на момант змоўк і зноў прайшоўся па кабінеце. Відаць было, што ён штосьці напружана абдумвае. Нарэшце, ён спыніўся перад Брусавым і сказаў:

— А што, калі гэты падпалкоўнік СС Рынгель тут? Вы, прафесар, павінны адкрыта пагаварыць з доктарам Родэ сам-насам. Ён любіць вас, паважае і верыць вам. Не сумняваюся, што ён многае ведае наконт украдзеных калекцый.

— Так, вы маеце рацыю, — згадзіўся вучоны. — Мне патрэбна пагаварыць з ім. Магчыма, сапраўды ўдасца што-небудзь даведацца пра лёс Колева?

Двое прыяцеляў яшчэ з даваенных часоў — прафесар Брусаў і маёр Волкаў нават не падазравалі, што за некалькі вуліц ад іх у гэты ж час доктар Родэ абмяркоўваў са сваёй жонкай, якім чынам выдаць рускім месца, дзе схаваны калекцыі, каб не выклікаць падазрэння оберштурмбанфюрэра СС Георга Рынгеля, а потым выехаць у Германію, да сына.

### ЧАЛАВЕК У ЧОРНЫМ ПЛАШЧЫ

Оберштурмбанфюрэр Георг Рынгель праклінаў сябе за сваю наіўнасць. Празмерная самаўпэўненасць і недаацэнка праціўніка прывялі да поўнага разгрому арганізацыі.

У тую ж ноч пасля няўдалай вылазкі Рынгель знішчыў усе дакументы на імя Франца Белофа. Потым збрыў бараду і вусы, а валасы падстрыг „ёжыкам". Такім чынам шафёр магістрата Франц Белоф, які з'явіўся на свет па загаду абербургамістра Гельмута Віля, знік гэтак жа хутка, як і нарадзіўся.

Паводле новых дакументаў, ён называўся Вільгельмам Мюнцам. Рынгель благаславіў у душы сваю празорлівасць і обербургамістра, які забяспечыў яго фальшывымі дакументамі на розныя прозвішчы, дзякуючы чаму пасля ўступлення ў горад рускіх ён зарэгістраваўся ў Кенігсбергу як Франц Белоф, а ў Пілау прадставіў дакументы на Вільгельма Мюнца.

Гэта ў даным выпадку выратавала яго ад арышту. Аднак цяпер Рынгель ужо выдатна разумеў, што калі ён у бліжэйшы час не знікне, то яму не мінаваць расплаты. Ён здагадаўся, што рускія ўжо напалі на след.

У давяршэнне да ўсяго доктар Родэ ўсё больш настойліва патрабаваў дазволіць яму выехаць у Германію, пагражаў, што ў адваротным выпадку ён выдасць рускім месца, дзе схаваны Янтарны пакой і іншыя творы, што вывезены з Украіны. Іншыя таксама бунтавалі, адкрыта заяўляючы аб бессэнсоўнасці працягваць барацьбу, патрабавалі роспуску арганізацыі, каб, пакуль не позна, яны змаглі вярнуцца ў рэйх.

У першыя дні снежня Георг Рынгель з'явіўся да доктара Родэ і доўга гутарыў з ім. Ён быў далікатны, ветлівы і мілы. У канцы Рынгель паведаміў доктару, што яны гатовы выканаць дадзенае яму абяцанне і што ён можа вярнуцца ў Германію. Гэта вестка вельмі ўзрадавала доктара. Аднак пазней, калі эсэсавец пайшоў, доктар стаў змрочны.

Георг Рынгель разліваўся перад доктарам салаўём, малюючы радасныя перспектывы навуковай работы ў Заходняй Германіі. Доктара, аднак, перш за ўсё хвалявала пытанне, як адшукаць сына. Эсэсавец выклаў яму свой план. У першым варыянце ён прапанаваў мужу і жонцы звярнуцца з афіцыйнай просьбай да савецкіх улад, каб выехаць разам з іншымі рэпатрыянтамі. Другі варыянт быў даволі рызыкоўны. Эма і Альфрэд Родэ павінны былі выехаць у Пілау і там звярнуцца ў рэпатрыяцыйны пункт, прадставіўшы дакументы на іншыя прозвішчы. Рынгель абяцаў дастаць для іх такія дакументы. Доктар быў здзіўлены, навошта ўскладняць справу, якую можна аформіць вельмі проста, але оберштурмбанфюрэр адмахнуўся загадзя прыгатаванай казкай, што рускія могуць не адпусціць вядомага вучонага ў Германію, хоць у думках у яго было зусім іншае. Ён хацеў захаваць сваю ўладу над доктарам. Калі ж Родэ і жонка згадзіліся б выехаць па фальшывых дакументах, то тым самым яны скампраметавалі б сябе ў вачах савецкіх улад.

*(Працяг будзе)*

# ТРЫБУНА чытачоў

## Гміна вучыцца

Гмінны камітэт партыі ў Нараўцы ацаніў ідэалагічную прапаганду за 1978/79 г. і прыняў планы на будучы год.

Кіраўнічы актыў гміны, у ліку 33 асобы, прымаў удзел у занятках Вячэрняга універсітэта марксізма-ленінізма. Галоўнай тэмай была: „Грамадска-гаспадарчая палітыка ПНР“. Вялікую ўвагу ўлады прысвячаюць грамадска-палітычнай адукацыі жанчын. У мінулым асветным годзе на 118 жанчын на курсе, 113 атрымала пасведчанні яго заканчэння. Падрыхтоўка вялася па праграме I ступені ў Альхоўцы, III ступені ў Міклашэве і Скупаве, II ступені ў Масеве і Ляшуках. Фінансавую дапамогу аказалі СКР, ГС і Банк спулдзельчы.

32 кандыдаты ПАРП прайшлі самаадукацыю па падручніку „Асновы ідэалогіі і палітыкі ПАРП“. Былі праведзены 3 сустрэчы.

У 13 партарганізацыях праходзіла масавае навучанне членаў партыі. Вядучымі напрамкамі тут былі: выбраныя праблемы грамадска-гаспадарчай палітыкі ПНР, асновы аграрнай палітыкі ПНР, вопыт сацыялістычных краін у пабудове развінутага сацыялістычнага грамадства. На 359 таварышоў толькі 4 не закончылі заняткаў. На кожным дакладзе было 80% слухачоў.

Тэарэтычна-педагагічны характар мела навучанне 52 настаўнікаў. Адбыліся 3 канферэнцыі. Яны былі звязаны адначасова і з прафсаюзнай дзейнасцю. Часта ўдзел у канферэнцыях прымалі і ўлады гміны, зацікаўленыя рознымі праблемамі жыцця настаўнікаў, людзей, якія выхоўваюць не толькі дзяцей, але і дарослых.

Актыў ЗСМП увёў розныя формы навучання. 8 чалавек хадзіла на даклады ВУМЛь, актыў моладзі запрашалі на заняткі ў партыйных арганізацыях, 62 асобы прыняло ўдзел у навучальна-адпачынковым біваку ў Грушках над рэчкай Нараўкай.

Ва ўсіх вёсках праводзілася навучанне гаспадароў. Праграма складалася з 3 тэмаў грамадска-палітычнага характару і 3 сельскагаспадарчых. Гэтая форма навучання падабалася сялянам. Актыў ТККС, ТВП і ТППР правёў шмат дакладаў у клубах „Рух“, на прадпрыемствах і ў вёсках.

Актыву гміны Нараўка належыцца вялікае прызнанне за так шырокую выхаваўчую дзейнасць сярод насельніцтва.

**Аляксандр Закройшчык**

### НАЛЕЖНАЯ ПАХВАЛА

У Бельску ёсць рэстаран „Падлясянка“. Ён належыць ВСС „Сполэм“ у Бельску. Тут заўсёды ветлівая і прыемная прыслуга. Пахвала належыцца ўсім, але найбольш Яўгеніі Майстровіч і Надзі Бручко.

Як гаворыць кіраўнічка рэстарана — Яўгенія Аляксеюк, працаўнікі „Падлясянкі“ заўсёды стараюцца рыхтаваць як найбольшы асартымент розных блюд. Пры гэтым таксама стараюцца, каб былі яны смачныя і недарагія.

Кожны, хто зайдзе ў „Падлясянку“, адразу ўбачыць, што ў рэстаране заўсёды чыста. Ядзяць тут абеды працаўнікі многіх прадпрыемстваў горада. Бываюць арганізаваныя ў „Падлясянцы“ данцынгі і вясельныя ўрачыстасці.

**Іван Кірызюк**

### Кажуць, што...

Паявілася новая форма даходу. На могільніку ў Суражы нехта забірае асобкі распятага Хрыста з крыжкоў на магілах. На чыіх крыжках яшчэ яны засталіся, дык гаспадары самі паздымалі, трымаюць у хаце і вешаюць толькі тады, калі на могілках адбываюцца ўрачыстасці.

Гаспадар вёскі Завыкі, у якога было два сыны, малодшага пакінуў на гаспадарцы, а старэйшага паслаў у Беласток у прафесіянальную школу. Хлопец закончыў школу, паступіў на працу і ў маладыя гады трагічна загінуў. Бацькі на магіле сына паставілі дарагі помнік. Сёлета маці зайшла на могільнік і не магла пазнаць, дзе магіла сына. Аказалася, што гэты дарагі помнік нехта забраў. Гэтакай пакразы, то яшчэ і ў нас не было — я не чуў.

**Незнаёмы**

## З візітам у Саколцы

Горад Саколка з кожным днём прыгажэе. У цэнтры горада стаіць старадаўняя царква. Каля царквы пасаджаны кветкі, пароблены алейкі, пастаўлены лаўкі, на якіх можна пасядзець, падыхаць прыемным і чыстым паветрам. Побач ёсць пляц, дзе прыезджыя могуць паставіць сваю машыну, а далей аграмадны вазоннік для кветкаў. Можна сказаць, што ў цэнтры горада Саколкі на кожным кроку чысціня і прыгажосць.

Але ж каля ўсяго добрага знойдзецца якое-небудзь ліха. Непадалёк ад сакольскага цэнтра культуры, на баку ёсць выходак, куды заходзяць прыезджыя. Ды тут адна загана: хто не ведае, што той выходак там ёсць, не знойдзе яго, бо няма тут ніякага знаку. Ды не толькі знаку няма, але і не вядома ў каторыя дзверы заходзіць жанчынам, а ў каторыя мужчынам, Ды і дзвярэй няма. А каб не было відаць усяго гэтага, выходак той ад вуліцы забіты дошкамі. Хто не здагадаецца, што за тымі дошкамі патрэбнае месца, той туляецца па завулках горада, а так не павінна быць. У Саколцы ўвогуле, бадай, не ведаюць, якія знакі павінны быць напісаны на публічных прыбіральнях, бо ніякага знаку таксама не мае выходак на чыгуначным вакзале. Чаму ў Беластоку ёсць знакі „WC“ на прыбіральнях, ды яшчэ многа метраў ад таго месца, каб чалавек ведаў куды ісці. Таксама павінна быць зроблена і ў Саколцы. Гэта ж вялікі і прыгожы горад.

**Э. Ш.**

## Патрэбна прачыстка

Меліярацыйныя равы, якія адводзяць воды з палёў і лугоў у раёне сяла Крывяцічы, у некаторых месцах заплылі мулам і зараслі травой. Патрэбна тут кансервацыя равоў, таксама неабходна выкасіць траву. Сяляне рэгулярна плацяць грошы за кансервацыю гэтых равоў, аднак, як бачым, горш маецца справа ў воднай суполцы з выконваннем іхніх абавязкаў.

**Іван Кірызюк**

## А можа ўжо пара?

Некалькі год назад у вёсцы пабудавалі супрацьпажарны басейн. Патрэбная рэч на такую вёску, як Старабераэова. Вёска вялікая, а за бядой не трэба хадзіць на кірмаш. Яна сама прыходзіць, не вядома і адкуль.

Прыгожы выйшаў басейн. Берагі абложаныя пліткамі — цуда! Кругом агароджаны драцяной сеткай. Здавалася б, будзе ён стаяць людзям назаўсёды. Прасіць толькі трэба паціху, каб не было пажару.

Выйшла інакш. Пайшлі дажджы. Басейн па берагах асунуўся. Ці то грунт слабы? А можа неадпаведна зроблены? Сетка абвалілася. Басейн выглядае, як пасля катастрофы. Нібы яго калкамі забяспечылі, а колькі гэта памагло?

І пра басейн забылі. Стаіць ён так ужо год. А як доўга будзе стаяць? Хто ж гэта ведае? Людзі да гэтага ўжо прывыклі і думаюць: можа так і павінна быць.

Ды ўрэшце апамятацца трэба і направіць басейн. Давесці да парадку — напэўна ўжо пара!

**Г. Мароз**

### ПРЫКЛАД ДОБРАСУМЛЕННАСЦІ

Пятра Саўчука ведаюць на чаромхаўскай станцыі, як добрасумленнага працаўніка. На чыгунцы працуе ён ужо больш 25 год. Быў звычайным рабочым, кандуктарам, адпраўляў паязды, выконваў абавязкі ў гандлёвай службе. Зараз працуе агентам. Заўсёды цаніў дысцыпліну працы. Не выканаць загаду начальніка станцыі — гэта скандал — гаворыць П. Саўчук. А ў маладых рабочых гэтакія ўчынкі — справа нармальная. Таму начальнікі цэняць характар нашага старэйшага калегі.

На працягу 25 гадоў сваёй працы Пётр Саўчук ніколі не быў у лекара. Не сведчыць гэта, што яму ніколі нічога не забалела. Бачым жа як многія па прычыне дробязных боляў сядзяць па некалькі тыдняў у бальніцах, абы не працаваць. Таму ставіцца Пятра Саўчука, як прыклад добрасумленнага рабочага.

**(ус)**

## Белавежцы на экскурсіі

У добры звычай увайшло ўжо, што Белавежскі нацыянальны парк у ліпені наладжвае сваім працаўнікам і іх сем'ям экскурсіі па цэлай Польшчы. Гэтак было і ў бягучым годзе. 32 асобы праз тыдзень наведвалі торуньскую „старуўку“, Славінскі нацыянальны парк, Труймяста, Гель, замак у Мальборку, кватэру Гітлера ў Герложы пад Кентшынам. Некаторыя з удзельнікаў экскурсіі былі ў гэтым раёне Польшчы ўпершыню, першы раз таксама бачылі мора. Хаця ў час экскурсіі стаяла дрэннае дажджлівае надвор'е, ніхто не страціў добрага настрою.

**Пётр Байко**
Фота аўтара



*Група ў Мальборку.*

## Наша пошта

Заўважыла ў „Пошце“ адказ на маё пісьмо. Дзякую. Маё пісьмо можа вам і не спадабалася. Цяпер вельмі многа знайшлося людзей, якія кажуць, быццам яны шмат працавалі. Вы пішаце, што магу быць вашым карэспандэнтам. Аднак, каб вы ўбачылі мяне, дык сказалі б — не. Мне ўжо 73 гады і ўжо галава не так варыць. Калі была маладшая, многа рабіла, а цяпер — стоп.

У нас у Нарве многа чаго можна даведацца, ды не ўсе праўду любяць Пісаць было б пра што, ды ці варта: сабе на галаву? Маўчанне галавы не сушыць. Калі б вы хацелі, дык прыехалі б у Нарву і многа чаго даведаліся. У другіх вёсках бываеце ж. А мне старой ужо позна.

Адно толькі мяне мучыць, што ў Нарве няма ніякай працы з моладдзю, толькі спорт і нічога больш, толькі гарэлка, шум, крык. Ці ж не можна арганізаваць што-небудзь культурнае, разыграць якую-небудзь п'еску, арганізаваць хор, моладзь была б занята, адарвалася б ад гарэлкі. Калі КГВ кінула ўсю гэтую работу (бо ніхто з улад нічым такім не цікавіўся), то і ўсё прапала. Прашу прабачэння за мае выражэнні. Буду чытаць „Ніву“, то зноў убачу адказ.

**Пастаянны чытач.**

**Ад рэд.** Дарма вы пераконваеце нас, што позна вам пісаць. Ваша пісьмо прыводзім, як доказ, што пісаць умееце, і думаць умееце.

## Аддалоскі

### НА ТЭМУ „ЗАПІСАК НАТУРАЛІСТА“

Развозячы пісьмы і газеты, у вёсцы Тафілаўцы трапіў я на Яна Корча, які атрымаўшы з маіх рук „Ніву“, разгарнуў яе старонкі і кажа: найперш чытаю „Запіскі натураліста“, у іх многа добрага і карыснага для селяніна. І далей пытае мяне: а мо, Мікалай, ведаеш гэтага чалавека? Так, ведаю, сказаў я, і калі хочаш, калісьці сустрэнемся з ім. Мой сябра Ян Корч быў задаволены, што сустрэнемся з інж. Рудкоўскім.

Ад сябе хачу дадаць, што Ян Корч вельмі добры гаспадар, ён спецыяліст па жывёлагадоўлі і майстар на ўсе рукі. Калісьці пісала пра яго „Ніва“.

Вельмі добра пабудаваўся, мае 2 трактары савецкай канструкцыі і ўсе неабходныя машыны, а таксама кузню. Ён пастаянны чытач „Нівы“ ад самага яе заснавання, выпісвае многа іншых газет.

**М. Панфілюк**

### КАБ НЕ БЫЦЬ ЖАБРАКОМ

Прачытаў я артыкул В. Петручука пад загалоўкам „Жабрак“. Хоць сябра Петручук перасцерагае, каб нас гэты загаловак не здзівіў, мяне аднак не толькі загаловак, ды і змест артыкула здзівіў. Чаму, пытаюся, чытач-карэспандэнт павінен кожны тыдзень бегчы ад кіёску да кіёску, каб здабыць „Ніву“? А можа ў горадзе такі парадак, што інакш не здабудзеш?

Бо на вёсцы то можаш выпісаць у пісьманосца адразу на цэлы год, за 52 зл. І кожны тыдзень ужо ў пятніцу піцьманосец прынясе табе „Ніву“ дадому, бо няхай паспрабуе не прынясе! Калі ў горадзе інакш, напішыце, калі ласка, бо мне гэта цікава.

А што датычыць малой колькасці „Нівы“ ў кіёску, я думаю, што „Ніва“ на кіёскі раздзяляецца толькі для рэкламы. Хто з „Нівай“ яшчэ не сустракаўся, дык у кіёску павінен зацікавіцца, пазнаёміцца і хуценька выпісаць і стаць пастаянным чытачом.

**Э. Шчасновіч**

**Ад рэд.** Выясняем, што ў горадзе, таксама можна зрабіць падпіску на „Ніву“. Аднак, паколькі пісьманосцы ў горадзе ўкідаюць карэспандэнцыю ў спецыяльныя скрынкі, падпіска ў пісьманосца наогул не практыкуецца, але на пошце — калі ласка.

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі „АДНЫ КЛОПАТЫ“ „Ніва“, № 26 (1218) ад 1 VII 79.**

**Адказвае: WOJEWÓDZKI ZWIĄZEK SPÓŁDZIELNI ROLNICZYCH W BIAŁYMSTOKU.**

Istotnie, ze względu na niskie przydziały blach ocynkowanych podjęliśmy wspólnie z Urzędem Wojewódzkim decyzję sprzedaży tego wyrobu od II kw. 1978 tylko na bazach magazynowych Zakładów Gospodarczych.

Jednakże ze względu na liczne skargi rolników związane z dowozem od 1 stycznia br. przywróciliśmy pierwotny system sprzedaży tzn. na składach Gminnych Spółdzielni.

W tym przypadku po odbiór blachy należało się zwrócić do Zakładu Gospodarczego Hajnówka a nie GS Kleszczele (ZG w Hajnówce nie notuje zgłoszeń).

Biorąc pod uwagę wyjątkową sytuację, mimo iż od chwili uzyskania przydziału minął rok, prosimy o osobiste skontaktowanie się z Działem Wyrobów Metalowych i Hutniczych Zakładu Gospodarczego w Hajnówce w celu dokonania zakupu 90 kg blachy ocynkowanej przydzielonej Obywatelowi na II kwartał 1978 r.

Zastępca Dyrektora ZZR
**M. Korneluk**

**Да публікацыі „БЕЗ ТАКІХ НАЦЭНАК“ „Ніва“ № 24 (1216) ад 17.VI 79.**

**Адказвае: GMINNA SPÓŁDZIELNIA „SAMOPOMOC CHŁOPSKA“ W KLESZCZELACH.**

Sklep znajdujący się na stacji w Czeremsze prowadzi sprzedaż podstawowych art. spożywczych oraz garmażerki produkowanej w Restauracji „Przygraniczna".

Produkowana garmażerka kalkulowana jest wg Zarządzenia Nr 15/77 Przewodniczącego Komisji Cen z dnia 22 marca 1977 r. i pisma Wojewody Białostockiego HU III7533 1/7/77 z dnia 28.02.1977 r. ustalono cytuję „w zakładach gastronomicznych produkujących na zaopatrzenie sieci handlu detalicznego i innych zakładach scentralizowanych produkcji kulinarnej, nie zaliczanych do zakładów przemysłu spożywczego, ceny detaliczne wyrobów kulinarnych ustala się przez doliczenie do wartości z zużytych surowców, liczonych w cenach detalicznych jak w § 8 ust. 2—4 marży w wysokościach nie przekraczających.

1. 60% wartości mięsa zwierząt rzeźnych i jego przetworów z tego mięsa.
2. 70% wartości pozostałych surowców.

Z uwagi na powyższe Zarządzenie, które nas wszystkich obowiązuje, dostarczona garmażerka kalkulowana jest w oparciu o powyższe Zarządzenie.

Jednocześnie informujemy, iż dokonano kontroli kalkulacji cen w restauracji i były one prawidłowe.

Prezes Zarządu GS
**N. Petelska**

